**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 36 (752) 4 верасня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Прыём прыватных абвестак_ №166**





“Каляровы лён”. Паказ адзення, якое пашыта з льняной тканіны.

**Мосар адзначыў 500-гадовы юбілей! Мосар - гэта не толькі касцёл св. Ганны і дэндралагічны парк, але найперш – лён! Льнозавод, як бы так мовіць, з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам Мосара. З льнянога палатна шыюць прыгожыя сукенкі і спадніцы. І паказ адзення, якое пашыта з льнянога палатна, было знакавым на святкаванні юбілею Мосара. Між іншым, у паказе адзення ўдзельнічала і супрацоўніца “Весніка Глыбоччыны” Галіна Сутула (другая ад права).** *Фота Ул. Скрабатуна.*



## У добры шлях за ведамі!

Усе мы ёсць ці калісьці былі дзецьмі, мы стаялі на ўрачыстай лінейцы і ганарыліся новай школьнай формай і сваёй настаўніцай.

1 верасня – свята першага званка, свята белых бантоў і новых партфеляў, свята кожнага! Усе дарогі ў гэты дзень вядуць да школаў. Прыгожа прыбраная дзятва з гонарам крочыць па вуліцах у чаканні новых вучэбных дзён, хатніх заданняў, выдатных адзнак у дзённіках.

Ратавальнікі Глыбоцкага РАНС таксама спяшаліся на гэтае ўрачыстае мерапрыемства. У рамках другога этапа прафілактычнай акцыі "У цэнтры ўвагі – дзеці!" вогнеборцы павіншавалі ўсіх дзяцей і настаўнікаў з новым вучэбным годам, зычылі паспяховай і плённай работы ў атрыманні новых ведаў, а таксама нагадалі аб неабходнасці выканання заўсёды і паўсюль правілаў пажарнай бяспекі.

**Дзмітрый Шаура,**
*інспектар ІПіН Глыбоцкага РАНС.*

Полацкі раён

# Рост, які не радуе

■ Чэслаў Якубовіч

**Упраўленцам на месцах штогод з верху спускаюцца ўсё больш вялікія прагнозныя заданні, але сітуацыя на многіх прадпрыемствах застаецца няпростай.**

З падобнымі праблемамі сутыкнуліся і ў Полацкім раёне, што адзначалася днямі на чарговым пасяджэнні райвыканкама, на якім разгледзелі вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна ў студзені-чэрвені. З аднаго боку падстаў для трывогі быццам няма, бо 10 з 13 мясцовых прадпрыемстваў забяспечылі сёлета прырост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці, выручка ад яе рэалізацыі ў разліку на аднаго працуючага вырасла на 13 %. Аднак рэальна стабільна, з перспектывай далейшага развіцця працуюць толькі тры калектывы Полаччыны: гігант індустрыі "Полацк-Шкловалакно", мясцовыя малочны камбінат і камбінат хлебапрадуктаў. Лёс астатніх менш аптымістычны, узнікла нават пагроза іх банкруцтва. У найбольш цяжкім становішчы апынуўся філіял ААТ "Белсолад" – мясцовы піўзавод са сваім зношаным абсталяваннем. Галаўное прадпрыемства махнула рукой на палачан, само адчувае фінансавыя цяжкасці, не можа дапамагчы інвестыцыямі на мадэрнізацыю. На складах філіяла кандытарскага камбіната "Віцьба" скапіліся запасы гатовай прадукцыі за 4 месяцы дзейнасці. Тут нават кіраўніка завода не могуць знайсці працяглы час. Не находзіць збыту і прадукцыя нядаўна цалкам паспяховага прадпрыемства ААТ "Тэхналіт-Полацк", які стаў стратным з-за няпростай сітуацыі ў заказчыкаў з сельгаспрадпрыемстваў АПК. Дадатковыя цяжкасці ўзніклі і ў Полацкага вінаробчага камбіната пасля далучэння да яго яшчэ чатырох філіялаў з велізарнымі стратамі. Палачане вырашылі звярнуцца за падтрымкай да абласных улад па шэрагу праблемных пытанняў, але вырашаць іх прыйдзецца ўсё ж самім.

Дубровенскі раён

# Не дачакаўся павышэння

■ Станіслаў Раманчук

**Не сакрэт, што заробкі ў многіх беларусаў, занятых у бюджэтнай сферы, невысокія, але ў пачатку восені медыкаў і настаўнікаў парадавала павышэнне іх службовых акладаў.**

Вось толькі былы ўрачнеўролаг Дубровенскай цэнтральнай раённай бальніцы сустрэў гэту навіну ўжо за турэмнымі кратамі. Суд раёна напрыканцы лета разгледзеў ягоную крымінальную справу па фактах неаднаразовага атрымання хабару ад сваіх пацыентаў. Як было ўстаноўлена падчас следства, гэты ўрач прыдумаў няхітры спосаб палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Ён нават 28 разоў выдаваў фіктыўныя даведкі за праходжанне медкамісіі на допуск да дарожнага руху, а таксама выпісваў лісткі непрацаздольнасці здаровым людзям. І хоць сума атрыманых грошай і іншых знакаў удзячнасці за "паслугі" аказалася ў выніку даволі сціплай, усяго 3,5 млн. рублёў, аднак пакаранне за злоўжыванні атрымалася вельмі суровым. Былы медработнік наступныя 3 гады жыцця правядзе ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Акрамя гэтага ў яго канфіскавалі нажытую маёмасць. Таксама пасля вяртання на свабоду ўрачу па прыгавору суда яшчэ на працягу трох наступных гадоў забаронена займаць ва ўстановах аховы здароўя пасады, звязаныя з выкананнем юрыдычна важкіх дзеянняў. Дарэчы, зараз хабар у нас – даволі распаўсюджаная з'ява, пра што засведчыў арышт у момант яго атрымання самога пракурора Шумілінскага раёна разам з намеснікам.

Пастаўскі раён

# Забыць неба немагчыма

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад суседзяў, райцэнтр Паставы за савецкім часам з'яўляўся яшчэ і буйным ваенным гарнізонам.**

І толькі пасля абвяшчэння Беларуссю сваёй дзяржаўнасці большасць ваенных часцей, якія размяшчаліся тут, былі расфарміраваныя, але былыя ваенныя захоўваюць памяць аб гадах сваёй армейскай маладосці. Некалькі гадоў назад на былым КПП у пачатку вуліцы Станкевіча з'явілася гранітная дошка аб дыслакацыі ракетнай дывізіі, а адным з сімвалаў горада стаў самалёт МІГ-23, які назаўсёды "прызямліўся" пры ўездзе ў мястэчка. З авіяцыяй на працягу амаль паўстагоддзя былі звязаны лёсы тысяч пастаўчан, як вайскоўцаў, так і вольнанаёмных. Яны штогод сустракаюцца тут, прыязджаюць з іншых месц краіны і з замежжа напярэдадні Дня ваеннапаветраных сіл Беларусі. Сёлета такая сустрэча пабрацімаў была асабліва масавая і хвалючая, бо яе прымеркавалі да адкрыцця ў мікрараёне былога 6-га ваеннага гарадка памятнага знака з нагоды 60-годдзя адкрыцця ваеннага аэрадрома ў Паставах. Прысутных сустрэў духавы аркестр, пасівелыя ветэраны, шмат хто ў сіняй афіцэрскай форме з трох былых палкоў бамбардзіровачнай і знішчальнай авіяцыі 26-й паветранай арміі пастроіліся па сваіх ранейшых падраздзяленнях. Былы камандзір 378-га авіяпалка штурмавікоў палкоўнік Юрый Сушкін пад мелодыю аркестра адкрыў прыгожы манумент з чырвонага граніта, які будзе нагадваць гараджанам, што калісьці тут размяшчаліся авіятары аэрадрома з пазыўнымі "Удалой". Пасля цырымоніі былыя вайскоўцы зрабілі шмат агульных фота ў розных кутках горада, а завяршылі сустрэчу сяброўскай вячэрай у папулярным кафэ "СССР".

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 04.09.14 | | | | Пятніца 05.09.14 | | | | Субота 06.09.14 | | | | Нядзеля 07.08.14 | | | | Пн.08.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +9 | +10 | +16 | +12 | +11 | +12 | +16 | +12 | +12 | +12 | +16 | +12 | +10 | +12 | +18 | +12 | +9 | +10 | +14 |
| Ціск | 758 | 758 | 758 | 758 | 757 | 757 | 755 | 753 | 752 | 751 | 749 | 748 | 748 | 747 | 748 | 748 | 749 | 750 | 751 |
| Вільготнасць | 98 | 89 | 60 | 82 | 95 | 85 | 74 | 97 | 98 | 93 | 70 | 86 | 95 | 86 | 68 | 89 | 93 | 82 | 61 |
| Вецер м/сек | 2 С-В | 2 В | 3 В | 2 Ю-В | 0 ШТЛ | 1 С-В | 3 Ю-В | 1 Ю-В | 1 Ю-В | 2 Ю | 4 Ю-З | 2 Ю | 2 Ю-З | 3 Ю-З | 4 З | 3 С-З | 3 С-З | 3 С-З | 3 С-З |

# Аб самым надзёным

## ВЫЙСЦІ НА ЎЗРОВЕНЬ ПРАДУКЦЫЙНАСЦІ ПРАЦЫ ЦЫВІЛІЗАВАНЫХ КРАІН СВЕТУ БЕЛАРУСАМ БУДЗЕ ВЕЛЬМІ НЯПРОСТА




■ Аляксандр Цішкевіч

**Эканомікай не пакамандуеш па сваім жаданні, бо да таго ж яшчэ адзін парадокс: айчынны рынак працы адчувае цяпер няхватку рабочых рук і спецыялістаў не толькі на вёсцы, але і ў будаўніцтве, нават медыцыне, не кажучы ўжо пра малыя гарадкі і пасёлкі.**

Неяк непрыкметна праляцела сёлетняе вельмі спякотнае лета, якое дапамагло Беларусі атрымаць нядрэнны ўраджай збожжа і меней чым за месяц правесці ўборку зерневых. Праўда, агульная эйфарыя ад дасягнутага неўзабаве некалькі сціхла, бо Камітэт дзяржкантролю (у ім адбылася змена кіраўніка) зноў выявіў застарэлыя балячкі айчыннага АПК. Пасля правядзення кантрольных праверак даволі шмат гаспадарак "праштрафіліся" тым, што заняліся прыпіскамі аб датах завяршэння жніва і завысілі невядома дзеля чаго паказчыкі дасягнутай ураджайнасці.

Асабліва шмат такіх прыкладаў усплыло на свет Божы на Магілёўшчыне, але і ў іншых абласцях краіны сітуацыя таксама незайздросная. У шэрагу гаспадарак былі выяўлены факты незабеспячэння захаванасці сабранага ўраджаю. Высветлілася таксама, што не хапала кваліфікаваных камбайнераў і механізатараў. У праблемных адстаючых гаспадарках ( у кожным раёне ёсць такая група гаротнікаў) дрэнна правялі рамонт камбайнаў, былі праблемы з вагавай і сушыльнай гаспадаркай. Пачалася ўслед за гэтым сяўба азімых, аднак па Беларусі склаўся новы дэфіцыт мінеральных угнаенняў, амаль 60 % да патрэбнасцей.

Дапрацаваліся нашы калгасы да таго, што ўгнаенняў для восеньскай сяўбы мелі ў 2 разы менш, чым у мінулым годзе. А ў гаротных гаспадарках увогуле не было чым заправіць тэхніку і зусім не было мінеральных угнаенняў. Вось і ўявіце, ці можа быць такая сітуацыя ў працуючага фермера на еўрапейскім кантыненце. А яшчэ беларускі лідар днямі выявіў, што ў нашых лясах пануе "разбой" і загадаў працаўнікам лясной гаспадаркі ўжо з 2015 года арыентавацца ў сваёй дзейнасці на лесаводаў Фінляндыі. Яшчэ праз год пачне дзейнічаць забарона на вываз з Беларусі неапрацаванай драўніны, усе экспартныя пастаўкі кіраўнік дзяржавы паабяцаў узяць пад асабісты кантроль.

З цягам часу мы, магчыма, зможам завальць і Расію ўласна вырашчанымі кавунамі і дынямі. Як аказалася, нават пад Мінскам удаецца паспяхова прэзідэнту займацца яшчэ і бахчавымі культурамі. Цяпер таксама нашы аграрыі спадзяюцца добра зарабіць на расійскіх прасторах, дзе выявіўся павышаны попыт на беларускія прадукты харчавання. І ўсё б было ў нас добра, каб не чарговая загвоздка. Толькі ў першым паўгоддзі ў Беларусі выявілі амаль 3 тысячы фактаў затрымак выдачы зарплаты працаўнікам. І вось тут сельгаспрадпрыемствы яўныя "лідары", толькі ў нашай Віцебскай вобласці ў пачатку лета 131 калгас не змог своечасова разлічыцца па розных прычынах са сваімі працаўнікамі.

Дарэчы, па краіне ў жніўні толькі ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях не было такіх праблем, а даўгі па зарплаце не пагасілі людзям 88 суб'ектаў гаспадарання. Вось і ўявіце, як многім сем'ям было горка, паколькі адсутнічалі грошы для падрыхтоўкі дзяцей да школы. А яшчэ патрабавалася ў тэрмін заплаціць камунальныя плацяжы, нехта не мог разлічыцца па банкаўскіх крэдытах, купіць увогуле нешта паесці. У цэлым па краіне малюнак сумны, бо за паўгода 2949 разоў наймальнікі не выплацілі ў тэрмін заробак людзям, за што былі аштрафаваны 2125 кіраўнікоў розных рангаў.

Тыя ж многія гаспадаркі ўжо працяглы час маюць праблемы з наяўнасцю грошай на разліковых рахунках. Яны не плоцяць не толькі зарплату, але і падаткавыя адлічэнні ў бюджэт, у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. У іншых галінах эканомікі таксама свае беды. Там каб плаціць зарплату, разлічвацца з пастаўшчыкамі, папаўняць абаротныя сродкі, выплочваць падаткі бяруць банкаўскія крэдыты пад 40-50 % гадавых і яшчэ болей пагаршаюць сваё фінансавае становішча.

Гэта адбываецца ад таго, што ў нас па-ранейшаму адміністрацыйна-камандная эканоміка, з верху загадваюць усім колькі прадукцыі выпускаць, колькі будаваць жылля і новых ферм, колькі аказваць платных паслуг і так далей. У выніку Беларусь вымушана жыць у доўг, браць замежныя крэдыты, лічбы ўзаемных неплацяжоў растуць і складаюць ужо трыльёны рублёў. Да прыкладу, у сярэдзіне жніўня за пабудаваныя розныя аб'екты бударганізацыям Беларусі заказчыкі завінавацілі ўжо 4,229 трыльёнаў рублёў, за адны толькі новыя фермы ў сельскай мясцовасці будаўнікам не заплацілі 1124 мільярды.

З даўгавой пасткі выбрацца беларусам будзе няпроста, хоць мы і ганарымся практычна суцэльнай занятасцю насельніцтва ( беспрацоўных па статыстыцы толькі 0,5 %, крыху больш 21 тысячы чалавек). Нам і ў бліжэйшай перспектыве будзе практычна нерэальна выйсці на паказчыкі прадукцыйнасці працы цывілізаваных дзяржаў. Эканомікай не пакамандуеш па сваім жаданні, бо да таго ж яшчэ адзін парадокс: айчынны рынак працы адчувае цяпер няхватку рабочых рук і спецыялістаў не толькі на вёсцы, але і ў будаўніцтве, нават медыцыне, не кажучы ўжо пра малыя гарадкі і пасёлкі.

## Дзень за днём

**Для аднаўлення пагалоўя свініны да канца года запрацуюць 11 новых свінакомплексаў. А. Лукашэнка запатрабаваў навесці ў лясах парадак і працаваць там, як у Фінляндыі. Харчовае эмбарга Расіі негатыўна адбілася на беларускіх дальнабойшчыках. Зноў падаражэла паліва для аўтамабілістаў, за апошнія некалькі гадоў гэта ўжо 22-е падаражэнне. Санслужба Беларусі папярэдзіла, што сёлета трэць дароў лесу забруджаны радыёнуклідамі, грыбы і ягады нельга купляць у месцах несанцыянаванага гандлю. Такога спякотнага лета, як сёлета, беларусы не бачылі чвэрць стагоддзя.**

# Важнейшыя навіны свету

**Балгарыя.** Урад краіны спыніў усе работы і тэндары па будаўніцтве свайго ўчастка газаправода “Паўднёвы паток”, пакуль праект не стане адпавядаць патрабаванням ЕС.

**Швейцарыя.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя заклікала ўсе краіны, дзе фіксавалася ліхаманка Эбола, узмацніць медыцынскі кантроль ва выяўленні і ізаляцыі такіх хвароб.

**Нігерыя.** Вучоныя краіны распрацавалі эксперыментальную вакцыну супраць ліхаманкі Эбола, а радыкальныя ісламскія баевікі выкралі яшчэ каля 100 маладых людзей.

**Сірыя.** Прэзідэнт ЗША Б. Абама заявіў аб поўным знішчэнні сірыйскай хімічнай зброі, апошнія 600 тон хімікаліяў знішчылі на борце амерыканскага карабля Cape Ray.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін прыгразіў стварыць асобную ваенную групоўку ў Крыме і выйсці з юрысдыкцыі Еўрапейскага суда па правах чалавека, іншых структур свету.

**Ізраіль.** Ісламская радыкальная групоўка ХАМАС пасля страты ў выніку авіяўдару трох сваіх баявых камандзіраў прыгразіла замежным авіякампаніям, якія лятаюць сюды.

**Украіна.** У рамках праграмы партнёрства ўрад ЗША дапаможа краіне агарадзіць сваю тэрыторыю ад Крыма калючым дротам, таксама сучаснымі сродкамі сувязі і назірання.

**Бельгія.** Еўракамісія выдзеліла першых 125 млн. еўра на кампенсацыю страт фермерам, вытворцам садавіны і гародніны, якія пацярпелі ад уведзеных Расіяй санкцый.

**ЗША.** У горадзе Фергюсан некалькі тыдняў працягваліся сутычкі паліцыі з жыхарамі, якія пратэставалі супраць забойства 18-гадовага чорнаскурага хлопца, увялі сюды Нацгвардыю.

**Англія.** Глава МЗС Эквадора Р. Паціньё наведаў пасольства краіны ў Лондане і выказаў падтрымку “вязню сумлення” Д. Асанжу, які хаваецца 2 гады ад экстрадыцыі ў ЗША.

**Венесуэла.** На фоне складанай эканамічнай сітуацыі і росту цэн урад краіны добраахвотна падаў у адстаўку, прэзідэнт Н. Мадура падзякаваў міністрам, смелым “рэвалюцыянерам”.

**Расія.** Адразу з 16 абласцей і аўтаномных акруг, таксама з Масквы, Падмаскоўя, Санкт-Пецербурга паступілі скаргі людзей у Грамадскую палату РФ на рост цэн на прадукты.

**Украіна.** Біскуп Барыс Гудзяк абурыўся, што ў Данбасе прарасійскія бандыты нападаюць на храмы і манастыры Украінскай грэка-каталіцкай царквы, пераследуюць вернікаў.

**Расія.** Дэпутаты ад КПРФ і “Адзінай Расіі” вырашылі восенню ўнесці ў Дзярждуму закон аб вяртанні ў школьную праграму ўрокаў палітінфармацыі, вярнуць эпоху “Зарніц”.

**Аргентына.** У выніку ДТЗ загінулі двое пляменнікаў Папы Рымскага і іх маці, сам 77-гадовы пантыфік прызнаўся, што мае праблемы са здароўем, прадчувае смерць за 2-3 гады

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Гродна.** Далей цягнуць на плячах сельгаспрадпрыемствы-дармаеды, паабяцаў беларускі лідар, дзяржава не будзе, трэба, каб вяскоўцы самі зараблялі, нічога ім ніхто не дасць.

**Мінск.** Дадатковыя пастаўкі харчавання ў Расію, паабяцаў арганізаваць глава Мінсельгасхарча Беларусі М. Русы, і за кошт яго закупак з панадворкаў насельніцтва.

**Жлобін.** Паблізу раённага цэнтра сталі знішчаць пад кантролем міліцыі свіней на панадворках насельніцтва з-за падазрэння на АЧС, смяртэльны вірус выявіўся ў гаспадарцы фермера.

**Жодзіна.** Беларуска-кітайская кампанія пачала праектаванне новага аўтазавода “БелДжы” па выпуску да 60 тысяч легкавых аўто ў год, яго павінны пабудаваць да 2017 года.

**Бабруйск.** Прэм’ер-міністр РБ М. Мясніковіч прыгразіў жорсткімі мерамі, калі не будуць выкананы ў тэрмін планы мадэрнізацыі “Белшыны”, дзе спад вытворчасці і імпарту.

**Мінск.** У сувязі з пераводам на іншую работу пазбавіўся пасады старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі 63-гадовы А. Якабсон, перад гэтым у яго памерла жонка.

**Скідэль.** Падчас наведвання мясцовага агракамбіната А. Лукашэнка прызнаўся, што на сваім участку вырасціў смачныя дыні і кавуны, прапанаваў вырошчваць іх на Палессі.

**Магілёў.** Міліцыя затрымала двух гараджан ва ўзросце 29 і 33 гадоў за знішчэнне фотафіксатара хуткасці руху, у горадзе і вобласці найбольш у РБ порцяць фотарадары.

**Мазыр.** Праз месяц пасля затрымання за язду на падпітку звольнілі са службы начальніка мясцовага раённага аддзялення ўнутраных спраў, яго пазбавілі правоў на 3 гады і пакаралі яшчэ буйным штрафам.

**Заслаўе.** У другі раз у сваёй 1030-й гісторыі горад прыняў Дзень беларускага пісьменства, удалося адрамантаваць 2 школы і 5 дзіцячых садкоў, адкрылі помнік князю Ізяславу.

**Гомель.** Фонды і валанцёры з некалькіх краін свету сабралі сродкі, каб бацькі забітага снайперам на Майдане Героя Украіны М. Жызнеўскага змаглі пераехаць у новую кватэру.

**Жлобін.** На мясцовым механічным заводзе “Днепр” выпусцілі самы вялікі ў Беларусі калёсны экскаватар з аб’ёмам каўша 1,2 куб. метра, 65 % яго дэталяў – беларускія.

**Мінск.** Сцяну музея піўзавода “Аліварыя” ў будынку 19 стагоддзя ўпрыгожыў барэльеф у гонар заснавальніка бровара і тагачаснага мэра горада графа Караля Яна Чапскага.

**Брэст.** Пасольства ЗША выдзеліла больш 100 тысяч долараў на інвентарызацыю і дакументацыю знешніх фортаў, умацаванняў крэпасці, якія не ўваходзяць у яе музей.

**Баранавічы.** Пасля параўнання ў інтэрв’ю газеце стану футбольнага поля з калгасным звольнілі з працы дыктара стадыёна “Лакаматыў” У. Майсюка з 20-гадовым стажам.

## З 1 верасня вырастуць цэны на газ і электраэнергію



■ FINANCE.TUT.BY

У Беларусі праіндэксавалі цэны на прыродны і звадкаваны газ, электрычнасць і цеплавую энергію. Адпаведная пастанова Саўміна апублікавана сёння на Нацыянальным прававым партале і ўступіць у сілу з 1 верасня.

З прыходам восені цана 1 кубаметру газу ў дамах і кватэрах, дзе ўсталяваныя прыборы індывідуальнага ўліку расходу, пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў і (або) газавых воданагравальнікаў ў ацяпляльны перыяд складзе 582,2 рубля. У летні перыяд 1 кубаметр абыйдзецца ў 2 131,1 рубля (раней - 1940,9 рубля).

Калі індывідуальных ацяпляльных газавых прыбораў няма, то плаціць за газ давядзецца 2 131,1 рубля за кубаметр незалежна ад сезону.

Цана на газ у жыллё без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння для аднаго жыхара ў месяц складзе 17 000 рублёў (раней 15 500 рублёў).

Калі цэнтральнага газазабеспячэння ў хаце няма, а жыхары карыстаюцца газавай плітой і індывідуальным газавым воданагравальнікам, то кошт 1 кубаметру газу складзе 49 000 (раней 44 650 рублёў).

Пры наяўнасці газавай пліты і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка - кошт складзе 27 700 рублёў.

Пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў, але без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу на 1 метр агульнай плошчы жылога памяшкання прыйдзецца плаціць 2 431,2 рубля, у летні перыяд - 911,1 рубля. 1 кубаметр звадкаванага газу, з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў у ацяпляльны перыяд складзе 9021 рубля, у летні перыяд - 5 682,5 .

Пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў кошт 1 кубаметру складзе таксама 5 682,5 рубля. Без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння або індывідуальнага воданагравальніка (за выключэннем газавага) кошт звадкаванага газу з аднаго жыхара ў месяц складзе 17 000 рублёў. Пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння - 48 250 рублёў, пры наяўнасці газавай пліты і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка - 22 700 рублёў.

Цана 1 кілаграма газу ў балонах вагой 21 кілаграм складзе 4 047,6 рубля, кошт балона адпаведна складзе 85 тысяч рублёў.

Аднаставачны тарыф на электраэнергію ў жылых дамах і кватэрах, абсталяваных электрычнымі плітамі, складзе 696 рублёў за 1 кВт • ч (ранейшы тарыф - 633,9 рубля). Дыферэнцыраваны тарыф у такіх жылых памяшканнях у перыяд мінімальных нагрузак (з 22.00 да 17.00) - 487,1 рубля (раней 443,7 рубля) за 1 кВт • ч, а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17.00 да 22.00) - 1392 рубля.

Электрычная энергія для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт у перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00) падаражэе да 818,9 рубля за 1 кВт • ч, у астатні час сутак - да 2 456,7 рубля . Тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння ўстаноўлены на ўзроўні 90.058 рублёў за 1 Гкал.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** Каб паспець здаць райцэнтр да абласных “Дажынак” 19-20 верасня, на яго аб’ектах у аўральным рэжыме працуюць звыш 2 тысяч чалавек са 100 розных арганізацый.

**Віцебск.** Са згоды Савета Рэспублікі Следчы камітэт арыштаваў сенатара, дырэктара мясцовай бройлернай фабрыкі А. Шарэйка за злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

**Наваполацк.** У раёне завода “Вымяральнік” адкрыўся першы ў горадзе гіпермаркет з вялізнай крамай “Еўраопта” і шэрагам іншых фірменных магазінаў тэхнікі, адзення.

**Орша.** Праверка Дзяраўнагара кантролю выявіла, што ў райвыканкаме дакументы грамадзян аб прыватызацыі жылля разглядаліся па 9 месяцаў, па закону на працэдуру адводзіцца толькі 30 дзён.

**Глыбокае.** Гаспадаркі раёна першымі ў вобласці завяршылі ўборку збожжа, намалацілі 65 тысяч тон зерня, дапамаглі і людзям убраць іх 3809 участкаў з зерневымі культурамі.

**Талачын.** Услед за выпускам унікальных у РБ тэрмапанэлей з клінкернай пліткай прыватная фірма “Прамфасад” наладзіла вытворчасць малых архітэктурных форм.

**Паставы.** У раённым цэнтры пачалі пераключэнне тэлефонных абанентаў на сучасныя опта-валаконныя тэхналогіі xPON са значным павелічэннем хуткасці доступу ў Інтэрнэт.

**Віцебск.** Па крымінальнай справе аб злоўжываннях на птушкафабрыцы арыштавалі ўжо 7 чалавек за закупкі за мяжой па быццам завышаных цэнах кармоў і кармавых дабавак.

**Ушачы.** За паўмесяца работнікам райкамунгаса ўдалося правесці замену труб на новыя сучасныя на складаным балоцістым участку цеплатрасы ў аграгарадку Арэхаўна.

**Лепель.** У пансіянаце для пажылых “Святліца” цёпла павіншавалі са 100-гадовым юбілеем Лізавету Санько, яна другая ў раёне, хто пераадолеў рубеж новага стагоддзя жыцця.

**Віцебск.** На працягу адной гадзіны міліцыя ўстанавіла асобу 58-гадовага беспрацоўнага, які патэлефанаваў пра “мініраванне” сталовай, адкуль эвакуіравалі 65 чалавек.

**Талачын.** Пасля апоўначы 27-гадовы вадзіцель Volkswagen не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў прыпаркаваны МАЗ, сам быў паранены, а яго 25-гадовы пасажыр загінуў.

**Бягомль.** Двое вальшчыкаў лесу з мясцовага лясгаса У. Гарэлаў і А. Харкоў дапамаглі зборнай камандзе Віцебскай вобласці выйграць адкрыты чэмпіянат РБ “Лесаруб-2014”.

**Расоны.** Нават у багатым лясамі раёне нарыхтоўшчыкі райпо з-за неўраджаю закупілі пакуль толькі 900 кг чарніц і 1,1 тону лісічак, летась дароў лесу тут мелі 52 тоны.

**Віцебск.** З перамогай на чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы ў бегу на 800 метраў глава вобласці павіншаваў мсмк М. Арзамасаву і яе асабістага трэнера Н. Духнову.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Погляд у мінулае



**Палац Берастоўскіх у Мосары. Разбураны ў 1918 г.**
***Знаходзіўся пры ўездзе ў цяперашні льнозавод.***

Упершыню Мосар згадваецца ў 1514 годзе. Ягоным уладальнікам быў Юры Зяновіч (Зяноўевіч), намеснік браслаўскі, якому ў грамаце вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ад 11 кастрычніка 1554 года было дазволена «при именью его Мосары над р. Дисною, местечко посадити, торг и корчмы вольные к пожитку у его мети». Пазней Мосар перайшоў у валоданне Пятра Паца, а ад яго - вялікаму маршалку Марцыяну Валовічу. У 1639 годзе гаспадарамі Мосара стала сям'я Долмат-Ісайкоўскіх, ад якіх ён ізноў перайшоў да Пацаў. Пазней Мосар прыналежаў Млечкам. У канцы XVII стагоддзя Канстанцыя Млечка выйшла замуж за Яна Уладзіслава Берастоўскага герба Стрэмя, пасля чаго Мосар больш за 200 гадоў прыналежыў Берастоўскім.



**Герб Стрэмя**

У 1775-1790 гадах Роберт Берастоўскі разам з жонкай Ганнай Платэр пабудаваў у Мосары велічны палац, які ўяўляў сабою двухпавярховы будынак, выкананы ў стылі класіцызму, які нагадваў каралеўскую рэзідэнцыю ў варшаўскіх Лазенках. Вакол палаца знаходзіўся парк з дубовай алеяй і садам. Палац быў знішчаны бальшавікамі.

Акрамя палаца сям'я Берастоўскіх таксама пабудавала ў Мосары каменны касцёл святой Ганны. У храме быў пахаваны яго заснавальнік Роберт Берастоўскі і яго нашчадкі, пазней з Мядзела ў касцёл святой Ганны былі перанесеныя мошчы святога Юстына.

У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 годзе Мосар апынуўся ў складзе Расійскай імперыі. Уваходзіў у склад Дзісненскага павету Віленскай губерні. За ўдзел у паўстанні 1830-1831 гадоў землі Берастоўскіх былі канфіскаваны. Каля 1840 году ў Мосары абрынулася ўніяцкая царква, пабудаваная ў XVIII ст, царкоўная маёмасць, якая захавалася, была перададзеная вярхнянскай праваслаўнай царкве.

У канцы XIX стагоддзя Мосар перайшоў у валоданне Пілсудскіх – у 1870 году яго купіў Эдмунд Пілсудскі, а яго сын Калікст Юзаф Пілсудскі стаў апошнім гаспадаром Мосара. У 1872 годзе ў Мосары адкрылася народная школа. Паводле Рыжскай мірнай дамовы (1921) Мосар апынуўся ў складзе Польскай Рэспублікі, дзе стаў цэнтрам гміны Дунілавіцкага павету Віленскага ваяводства. У 1939 годзе пасля акупацыі Заходняй Беларусі Мосар увайшоў у склад БССР, дзе 12 кастрычніка 1940 года стаў цэнтрам сельсавета Дунілавіцкага раёна. У 1946 г паўстаў Мосарскі льнозавод. 20 студзеня 1960 года Мосар атрымаў статус вёскі ў Глыбоцкім раёне. 20 жніўня таго ж года ўвайшоў у склад Удзелаўскага сельсавета.

У 1998 годзе ў Мосары было 485 жыхароў, на дзень святкавання 500-гадовага юбілею – 355.

**Лета 2014 года на Глыбоччыне запомніцца юбілеямі: Глыбокаму – 600, Падсвіллю – 90, а Мосару – 500.**

# У Глыбокім – згушчонка, у Падсвіллі – віно, а ў Мосары – лён!

*Мосар адзначыў 500-я ўгодкі першай згадкі ў гістарычных дакументах*



**Народны гурт беларускай песні “Маладзіцы” з в. Навасёлкі Пастаўскага раёна парадаваў прысутных выдатным канцэртам. А песня “Касіў Ясь канюшыну”, пададзеная на італьянскі матыў, вельмі захапіла публіку.**

■ **Ул. Скрабатун**

### Надвор'е не падвяло!

Надвор’е ў гэты дзень злітавалася! Цёпла і сонечна! На святкаванне юбілею Мосара прыехалі шматлікія госці, у тым ліку яго ўраджэнцы, якімі ганарыцца Мосар, бо гэтыя людзі робяць свой унёсак у дабрабыт краіны.

А 15-й гадзіне масарчане і арганізатары свята сустрэлі дзлегацыю гасцей. Кіраўніку раёна Алегу Морхату на ручніку паднеслі хлеб-соль. Ад дэпутацкага корпуса раёна ў Мосар завітала Галіна Унуковіч.

У кантэксце святкавання юбілею адбылося ўскладанне кветак да магілы слыннага ксяндза Юозаса Булькі, якому Мосар абавязаны сваім найноўшым адраджэннем, хто праславіў яго не толькі на ўсю Беларусь, але і далёка за межамі краіны, аб чым сведчаць нярэдкія візіты экскурсантаў з Польшчы, Расіі, Літвы…

Потым адбылася святочная Імша ў касцёле святой Ганны. Ладзілася акцыя – у выніку якой пасадзілі “Алею да юбілею”. Затым прайшоў мітынг-рэквіем ля помніка загінулым воінам. І, нарэшце, адкрылі сацыяльны аб’ект для адзінокіх людзей.

Мы прыехалі да прыкасцельнага пляца ў Мосары, калі свята ўжо было ў разгары, то спачатку падумалі, што масарчане свята ігнаравалі. Пуста! Адзінкавыя людзі! І то – ля палатак з панчохамі і шкарпэткамі або ля каваля, які чаканіў сувенірныя манеты. Вакол - дым і прыемны пах смажаных шашлыкоў і каўбасак! Аднак, суха! Які шашлык без гарэлкі! А ніхто не наліваe! Народ на безалкагольнае свята не клюнуў?

Але, аднекуль здалёку, пачулася мелодыя. Ага, трэба рушыць за касцёл! Там – свята!

Народу на свята завітала багата! Калі ўсіх палічыць, то сотні на чатыры пацягне. Ва ўсялякім разе ўсе зэдлікі і лаўкі перад сцэнай былі занятыя цалкам, а колькі яшчэ прагульвалася і аглядала розныя мосарскія славутасці! Балазе гукаўзмацняльная апаратура даносіла падзеі са сцэны ў самыя аддаленыя куткі.

Не збіраюся кагосьці крытыкаваць, але я так і не зразумеў мосарскую інавацыю, чаму сцэна – наверсе, а лаўкі – унізе? Прысутныя глядзяць знізу ўверх, г.зн. у спіну таго, хто сядзіць спераду. Лагічна было б зрабіць наадварот: сцэна – унізе. Але, гэта так, да слова.



**Доктар Генадзь Лапушынскі: Сітуацыю з нараджальнасцю ў Мосары трэба выпраўляць!**



**Лён - гэта не толькі сукенкі, спадніцы і кашулі! Але і прыгожыя вышываныя фіранкі ды ручнікі. Арганізатары свята не забыліся пра гэта і арганізавалі адпаведныя выставы. Вырабы з льну – частка нашай беларускай культуры.**

### Патрапіў нібы ў пачатак XIX стагоддзя!

На сцэну штораз запрашаліся масарчане для ўганаравання каштоўнымі падарункамі, гэта былі і ветэраны працы, і цяперашнія працаўнікі селгаспрадпрыемства “За Радзіму”, льнозавода, пошты, настаўнікі школы… Калі называлася чарговае прозвішча, імя і імя па бацьку, то стваралася ўражанне, што патрапіў у пачатак XIX ст, калі мы ўсе – жыхары Глыбоччыны і Беларусі – спрэч былі каталікамі: хто рыма-каталікам, а хто і грэкакаталікам (уніятам). Заслухаешся мелодыкай імёнаў накшталт: Вінцэнта Дамінікаўна, Ядвіга Казіміраўна, Яніна Францаўна, Тадэвуш Баляслававіч, Францішка Янаўна… На фоне ўсёй Беларусі – такая ўнікальная адметнасць яшчэ захавалася ў Мосара.

Трэба яшчэ адзначыць і добрую тэндэнцыю на Глыбоччыне. Свята ў Мосары з большага было беларускамоўнае!

### У Мосары была бальніца

Аказваецца, упасляваенны перыяд у Мосары была ўчастковая бальніца, дзе з 1957 па 1960 гг працаваў слынны потым ў Глыбокім дзіцячы доктар Генадзь Іванавіч Лапушынскі. Ну, хто не ведае доктара Лапушынскага! Я й сам, калі ўбачу яго на вуліцы ў Глыбокім, адразу згадваю хрэстаматыйную фразу маці са школьных гадоў: “Захварэў? Заўтра ў школу не ідзеш! Павяду цябе, Воўка, да Лапушынскага!” Каго не запытай – усе ў дзяцінстве, хоць раз, пабывалі ў доктара Лапушынскага на прыёме. Цяпер доктару – за 80, але ён вядзе актыўны лад жыцця.

Доктара Лапушынскага, якога запрасілі для ўганаравання на святочную сцэну, прысутныя сустрэлі авацыямі.

Доктар адзначыў, што ў мосарскай бальніцы было 10 ложкаў, з якіх 3 – для парадзіх, і яны ніколі не пуставалі. Доктар адрасаваў гэтую заўвагу цяперашняй моладзі Мосара. Сітуацыю трэба выпраўляць!

Тады Мосар належыў да Дунілавіцкага раёна (райцэнтр г.п. Варапаева) і каб здабыць пэўныя лекі – трэба было ехаць у Варапаева. З транспартам у той час было тугавата, зімой прыходзілася ставаць на лыжы, час ад часу бальніцы дапамагаў транспартам льнозавод ці калгас.

### Каляровы лён

Калі ў Глыбокім – згушчонка, у Падсвіллі – віно, то ў Мосары – лён!

Не абмінулі арганізатары свята паказу адзення, якое пашытае з льняной тканіны. Гэтае мерапрыемства назвалі “Каляровы лён”. Лагічна! У Мосары – льнозавод, і шмат хто з жыхароў вёскі тут працуе.

Калі не быць знаўцам моды, і каб вядоўца са цэны не аб’явіла, што гэта – паказ адзення з лёну, то наўрад ці здагадаўся б і думаў, што гэтыя прыгожыя сукенкі, спадніцы, камізэлькі і кашулі пашытыя з сінтэтычнай тканіны. Не! Гэта – наш беларускі лён! Прыемнае і здаровае для чалавечага цела адзенне!

### “Касіў Ясь канюшыну”

Асноўную канцэртную праграму прывёз з сабой Народны гурт беларускай песні “Маладзіцы” з вёскі Навасёлкі на Пастаўшчыне, зрэшты і недалёкія суседзі Мосара.

Як даўней у нас сказалі б: пекныя дзяўчаты дужа пекна спявалі! А песня “Касіў Ясь канюшыну”, якая была стылізавана пад падабенства з італьянскай мелодыяй Ricchi E Poveri - Mamma Maria стала сапраўдным хітом канцэртнай праграмы.

Сцямнела. Прысутным паказалі дакументальны фільм аб гісторыі Мосара, дзе добрым словам згадалі Роберта і Ганну Берастоўскіх, якія пакінулі Мосару касцёл святой Ганны. Шкада, што іх рэзідэнцыю – палац – знішчылі бальшавікі ў 1918 годзе. Зразумела, не забыліся і пра ксяндза Юозаса Бульку, які зрабіў з Мосара перліну.

На заканчэнне – дыскатэка для ўсіх, незалежна ад узросту. На развітанне, а 22-ой – святочны феерверк.

# Электрабяспека ў побыце

**Усе мы ведаем, што з электрычнасцю трэба абыходзіцца асцярожна. Аднак у межах роднай хаты, ва ўтульнай абстаноўцы, у асяроддзі звыклых рэчаў мы часам легкадумна забываемся пра небяспеку, якая бяжыць па правадах. Але ж наступствы няправільнага або неасцярожнага абыходжання з электрапрыборамі могуць быць вельмі сумнымі.**

■ **Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду»*

Як ні дзіўна, але прычыны няшчасных выпадкаў з электрычнасцю ў побыце застаюцца фактычна нязменнымі на працягу дзесяцігоддзяў – гэта парушэнне правілаў эксплуатацыі або выкарыстанне няспраўных электрапрыбораў, неасцярожнасць і няўважлівасць пры абыходжанні з электрычнасцю, спробы самастойнай разборкі і рамонта электрапрыбораў. Здавалася б, аб гэтых прычынах ведаюць і памятаюць усё, пачынаючы з дзіцячага ўзросту, але шмат хто ўпарта не прыслухоўваецца да папярэджанняў. З пункту гледжання псіхалогіі гэта зразумела: у сваёй кватэры чалавек адчувае сябе ў бяспецы, бытавыя прыборы з'яўляюцца для яго толькі часткай камфортнай абстаноўкі, а звычка рэгулярнага карыстання імі аслабляе пачуццё асцярожнасці.

А зараз некалькі агульных рэкамендацый па бяспечным выкарыстанні электрапрыбораў ў побыце.

1. Своеасаблівым «слабым месцам» многіх электрапрыбораў з'яўляецца сеткавы шнур. З-за частых перагібаў з часам магчымы надлом або абрыў токаводнай жылы, што вядзе да іскрэння, нагрэву і, магчыма, узгарання ізаляцыі провада. Часцей за ўсё такое пашкоджанне ўзнікае ў месцы мацавання шнура да вілкі. Не цягніце за шнур, каб выцягнуць вілку з разеткі. Неабходна таксама сачыць за спраўнасцю ізаляцыі сеткавага шнура, так як любое дакрананне да аголенага провада можа мець сур'ёзныя наступствы. Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі з пашкоджанай ізаляцыяй провада.

2. Рамонт электрычных прыбораў павінен выконваць толькі кваліфікаваны спецыяліст.

3. Вентыляцыйныя адтуліны электрапрыбораў – зона падвышанай увагі. Не дапускайце пападання праз іх вадкасцяў або металічных прадметаў унутр прыбора. А таксама нельга закрываць вентыляцыйныя адтуліны, каб пазбегнуць узгарання прыбора.



4. Катэгарычна забараняецца карыстацца электрапрыборамі ў ванне або пад душам – вільготная скура і заземляльныя ўласцівасці металічнай ванны не пакінуць вам шчаслівага шанцу ў выпадку падзення прыбора ў ваду або наяўнасці пашкоджанняў у яго ізаляцыі.

5. Не пакідайце электрапрыборы ўключанымі без нагляду. Гэта датычыцца таксама і прылад, якія могуць функцыянаваць у так званым «дзяжурным рэжыме». Паглядзіце ў інструкцыю па эксплуатацыі – як правіла, не дазваляецца пакідаць прыбор у дзяжурным рэжыме больш за 1-2 сутак.

6. Растлумачце дзецям правілы карыстання электрапрыборамі, для маленькіх дзяцей абмяжуйце магчымасць непажаданага кантакту з электрычнасцю: зачыніце разеткі адмысловымі заглушкамі, не пакідайце ў разетцы вілку шнура сілкавання, нават калі электрапрыбор выключаны.

Выкананне гэтых простых правілаў паслужыць гарантам бяспекі для вас і вашых блізкіх.

# Узровень пажарнай бяспекі правераных суб'ектаў

**У ліпені – жніўні 2014 інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершаны планавыя праверкі 6-ці суб'ектаў: ААТ «Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат» (дырэктар Дулінскі В.Б.), Дзяржаўнай лесагаспадарчай установы «Глыбоцкі вопытны лясгас» (дырэктар Козак А.Д.), ПГУП «Кася-М» (дырэктар Цяліца М.В ..), ПГУП «ХолТранс» (дырэктар Паляк Ю.І.), ПГУП «Для Вас плюс» (дырэктар Лось Р.А. ), ІП Шапавалава І.П.**

Па выніках праверак ААТ **«Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат»** і **Дзяржаўнага лесагаспадарчай установы «Глыбоцкі вопытны лясгас»** выяўлена, што кіраўніцтвам суб'ектаў не выдзяляецца неабходнае фінансаванне на прывядзенне суб'ектаў ў належны супрацьпажарны стан.

На працягу шэрагу гадоў не выконваюцца патрабаванні нормаў пажарнай бяспекі Рэспублікі Беларусь НПБ 15-2007 «Вобласць прымянення аўтаматычных сістэм пажарнай сігналізацыі і ўстановак пажаратушэння» ў абсталяванні будынкаў сродкамі пажарнай аўтаматыкі, што ў сваю чаргу перашкаджае хуткаму выяўленню пажару. Першаснымі сродкамі пажаратушэння будынкі ўкамплектаваны не ў поўным аб'ёме. Не арганізавана правядзенне трэніровачных заняткаў для персаналу па эвакуацыі людзей з будынкаў у адпаведнасці з планамі эвакуацыі і інструкцыяй.

Дадзеныя парушэнні зніжаюць узровень забеспячэння пажарнай бяспекі.

Па выніках праверкі **ПГУП «Кася-М»** выяўлена, што:

■ адсутнічае дамова са спецыялізаванай арганізацыяй на абслугоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі;

■ шляхі эвакуацыі не пазначаныя прадпісваючымі знакамі згодна з СТБ 1392-2003;

■ не арганізавана правядзенне трэніровачных заняткаў для персаналу па эвакуацыі людзей з будынка ў адпаведнасці з планам эвакуацыі і інструкцыяй, якая вызначае дзеянні персаналу па забеспячэнні бяспечнай эвакуацыі людзей;

■ праходы на шляхах эвакуацыі ў памяшканні крамы загрувашчаны, што перашкаджае бяспечнай эвакуацыі.

Па выніках праверкі **ІП Шапавалава І.П.** выяўлена, што:

■ адсутнічае дамова са спецыялізаванай арганізацыяй на абслугоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі;

■ у будынку павільёна адсутнічае інструкцыя па пажарнай бяспецы;

■ у будынку павільёна план эвакуацыі людзей і матэрыяльных каштоўнасцяў на выпадак ўзнікнення пажару не адпавядае патрабаванням ППБ.

Па выніках планавых праверак **ПГУП «ХолТранс»** і **ПГУП «Для Вас плюс»** выяўленыя нязначныя парушэнні былі ліквідаваны ў ходзе праверак.

Па выніках праверак, за выключэннем ПГУП «Для Вас плюс», у дачыненні да кіраўнікоў і службовых асоб дадзеных суб'ектаў пачаты адміністрацыйныя працэсы.

*Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС*



**Адкрыццё памятнай шыльды ў касцёле ў Друі.**

# 100-годдзе з Дня нараджэння біскупа Чэслава Сіповіча адзначылі ў Друі

**Святочныя мерапрыемствы з гэтай нагоды прайшлі 30 – 31 жніўня ў Друі і Мінску.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

У Друі святкаванне адбывалася ў нядзелю 31 жніўня. Распачалося яно з асвячэння новых помнікаў на магілах бацькоў Чэслава Сіповіча. Таксама да магілы яго бацькоў была прыкладзена капсула з зямлёй з магілы біскупа ў Лондане.

Непасрэдна ў касцёле ў Друі святкаванне распачалося пасля абеду з сустрэчы Апостальскага Нунцыя Клаўдыё Гуджэроці. Сустракалі яго пробашч друйскага касцёла кс. Сяргей Сурыновіч, біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, а таксама грэка-каталіцкі біскуп са Славакіі Мілан Лях.

Перад пачаткам святой Імшы была адкрыта мемарыяльная дошка з барэльефам біскупа Сіповіча, якую асвяціў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці. Ён жа і ўзначаліў богаслужэнне. Дарэчы, тэкст на памятнай дошцы напісаны беларускай лацінкай, зроблена яна была ў Лондане.

Падчас свайго казання папскі пасланнік узгадаў жыццёвы шлях Чэслава Сіповіча, які на той час быў адзіным беларускім каталіцкім біскупам. Адметнасцю казання стала і тое, што Нунцый упершыню прамаўляў да вернікаў пабеларуску.

Па словах Апостальскага Нунцыя, Чэслаў Сіповіч быў тым чалавекам, які ўсім сваім сэрцам шукаў Бога. *"Ён мог бы мець спакойнае законнае жыццё. Дастаткова было б прыняць перакананні тых, хто настойліва навязваў яму чужую ідэнтычнасць. Шмат пакутаў абмінулі б яго, і паводле сучаснага мыслення ён быў бы шчаслівым…*

*Было б дастаткова адрачыся ад сваёй беларускасці, згадзіцца на тое, каб гэты народ быў бы яшчэ раз прыніжаны, як гэта было на працягу стагоддзяў: народ, які лічылі нікім і нічым, безыменнае стварэнне, невядомая зямля сярод вядомых краін, бязлюдная тэрыторыя.*

Але Чэслаў Сіповіч і на чужыне не выракся сваёй беларускасці, з-за якой пацярпеў ад польскіх уладаў падчас II Рэчы Паспалітай. Менавіта ў знак павагі да гэтага, як падкрэсліў Клаўдыё Гуджэроці, ён і вырашыў у сценах друйскага касцёла звярнуцца да беларускіх вернікаў на іх роднай мове.

Напрыканцы набажэнства быў асвечаны новы абраз для касцёла, а пасля каля святыні адбыўся канцэрт, які падрыхтавалі вернікі з суседняй парафіі ў Слабодцы. Песні былі чуваць і ў суседняй Латвіі, бо касцёл у Друі стаіць на беразе Дзвіны, якая тут падзяляе Беларусь і Латвію.

***

Чэслаў Сіповіч — (8 снежня 1914 г., в. Дзедзінцы, Браслаўскі павет — 4 кастрычніка 1981 г., Лондан) — беларускі грэка-каталіцкі святар, генерал супольнасці марыянаў, візітатар для беларусаў-грэка-католікаў замежжа. Навучаўся ў кляштары марыянаў у Друі, там жа вырашыў стаць манахам. У 1935 – 1938 гадах вывучаў філасофію і тэалогію ў Віленскім універсітэце. Але закончыць адукацыю яму не далі польскія ўлады, якія выселілі яго разам з іншымі беларускімі марыянамі з друйскага кляштара за сваю нацыянальную пазіцыю. Далей вучобу працягваў у Рыме, дзе абараніў доктарскую дысертацыю. Дамагаўся трансляцыі ватыканскага радыё на беларускай мове. З 1960 па 1981 год біскуп Чэслаў Сіповіч з’яўляўся Апостальскім візітатарам для беларусаў грэка-католікаў у замежжы.



**Апостальскі Нунцый у Беларусі Клаўдыё Гуджэроці.**

# «Нядрэмнае Вока»

**У адрозненне ад звыклай думкі «Ох, рано, встаёт охрана» сучасны Дэпартамент аховы не кладзецца зусім, а функцыянуе ў кругласутачным рэжыме і паспяхова вырашае пастаўленыя задачы.**

**А.А. Хайноўскі,** *камандзір узвода міліцыі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы*

У адпаведнасці з ускладзенымі задачамі Дэпартамент аховы:

- ажыццяўляе за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў ахову вызначаных заканадаўствам аб'ектаў і фізічных асоб, а таксама ахову грамадскага парадку на ахоўных аб'ектах, у зонах пастоў і маршрутаў патрулявання;
- аказвае на дагаворнай аснове наступныя ахоўныя (платныя) паслугі:
  - ахову фізічных асоб;
  - ахову аб'ектаў (маёмасці) юрыдычных і фізічных асоб, у тым ліку грузаў, што перамяшчаюцца транспартам;
  - ахову грамадскага парадку на ахоўных аб'ектах, у зонах пастоў і маршрутаў патрулявання;
  - праектаванне, мантаж, наладку, тэхнічнае абслугоўванне сродкаў і сістэм аховы;
- папярэджвае і спыняе правапарушэнні на ахоўных аб'ектах, у зонах пастоў і маршрутаў патрулявання;
- удзельнічае ў межах сваёй кампетэнцыі ў ажыццяўленні Міністэрствам унутраных спраў ліцэнзавання дзейнасці па забеспячэнні бяспекі юрыдычных і фізічных асоб, заключае з дзяржаўнымі органамі, іншымі юрыдычнымі асобамі, якім выдадзены спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на дзейнасць па забеспячэнні бяспекі юрыдычных і фізічных асоб, дагаворы аб умовах і правілах ажыццяўлення названай дзейнасці;
- ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю па забеспячэнні бяспекі юрыдычных і фізічных асоб;
- ажыццяўляе ў парадку, устаноўленым Міністрам унутраных спраў, тэхнічны нагляд за дзейнасцю юрыдычных асоб па праектаванні, мантажы, наладцы і тэхнічным абслугоўванні сродкаў і сістэм аховы;
- ажыццяўляе суправаджэнне тавараў і транспартных сродкаў, якія знаходзяцца пад мытным кантролем, у парадку, які вызначаецца Дзяржаўным мытным камітэтам і Міністэрствам унутраных спраў;
- а таксама выконвае іншыя функцыі.

Супрацоўнікамі ўзвода міліцыі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь за мінулы перыяд гэтага года ў зонах пастоў і маршрутаў патрулявання раскрыта 14 злачынстваў, выяўлена больш за 311 адміністрацыйных правапарушэнняў, з іх 33 дробныя крадзяжы.

Спектр выяўленых правапарушэнняў досыць шырокі: ад хуліганаў, якія ўчынілі пагром на дзіцячай пляцоўцы «Брыганціна» і тэрыторыі УА «Глыбоцкі прафліцэй» і нанеслі ўрон у памеры больш за 4.000.000 рублёў да банальных раскрадальнікаў.

Так, напрыклад, на аднаго з супрацоўнікаў мясакамбіната, які спрабаваў у мінулым месяцы выкрасці 30 батонаў каўбасы на суму 1.470.000 рублёў, складзены пратакол па арт.10.5 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Яшчэ адзін нядаўні прыклад: на жыхара нашага горада, які перавозіў на аўтамабілі 180 літраў афарбаванага паліва, прызначанага для прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу, складзены пратакол па ч.6 арт.12.30 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Нагадваем, што згодна з часткай 3 артыкула 12.30 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь (незаконны зварот нафтавага вадкага паліва ў Рэспубліцы Беларусь) **перавозка** па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь **больш за сто літраў нафтавага вадкага паліва** (аўтмабільны бензін, дызельнае і бытавое паліва ўсіх марак) звыш колькасці, якая знаходзіцца ў серыйна ўстаноўленых арганізацыяй-вытворцам паліўных баках транспартных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для яго перавозкі, **цягне накладанне штрафу ў памеры да ста базавых велічынь з канфіскацыяй паліва**, якое перавышае колькасць, перавозка якога па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дапускаецца.

Згодна з часткай 6 названага вышэй артыкула Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях набыццё, захоўванне, выкарыстанне або рэалізацыя фізічнымі асобамі афарбаванага нафтавага вадкага паліва, якое пастаўляецца ва ўстаноўленым парадку ў арганізацыі, якія выконваюць работы, звязаныя з вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі, калі ў гэтых дзеяннях няма складу злачынства, цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да пяцідзесяці базавых велічынь. Пад афарбаваным нафтавым вадкім палівам разумеюцца дызельнае паліва і аўтамабільны бензін Нармаль-80, афарбаваныя арганізацыямі, якія ажыццяўляюць аптовы продаж нафтапрадуктаў, адпаведна ў зялёны і сіні колер з выкарыстаннем прызначаных для гэтых мэтаў фарбавальнікаў у адпаведнасці з усталяванымі патрабаваннямі тэхнічных нарматыўных прававых актаў.






# Дарагія атрымаліся карасі

**За 8 месяцаў 2014 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету выяўлена 155 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, па сямі матэрыялах следчымі органамі МУС у дачыненні да парушальнікаў распачатыя крымінальныя справы.**

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

У парушальнікаў канфіскавана 38 браканьерскіх сетак, агульнай даўжынёй 1 кіламетр 920 метраў, 36 адзінак іншых браканьерскіх прылад рыбалоўства, 109 кг незаконна здабытай рыбы, 6 адзінак агнястрэльнай зброі, 4 адзінкі зброі, якая не зарэгістраваная, 235 кг незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, 802 м$^3$ незаконна нарыхтаванай драўніны. Усе парушальнікі панеслі пакаранне.

Штомесяц раённыя суды прыцягваюць да адміністрацый-най і крыміналь-найадказнасці дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.

30 ліпеня 2014 года Глыбоцкім раённым судом разгледжана крымінальная справа ў дачыненні да жыхароў в. Слабада Глыбоцкага раёна Садкоўскага Франца Фаміча і Бараноўскага Антона Іванавіча, якія на возеры Шо ажыццяўлялі незаконную здабычу рыбы сеткамі. Суд прысудзіў Бараноўскага Антона Іванавіча да пакарання ў выглядзе штрафу ў памеры 65 базавых велічынь, што складае 9.750.000 рублёў.



Садкоўскага Франца Фаміча суд прызнаў вінаватым у незаконнай здабычы рыбы і прыцягнуў да пакарання ў выглядзе штрафу ў памеры 60 базавых велічынь, што складае 9.000.000 рублёў. Таксама суд прысудзіў Садкоўскага Ф.Ф. і Бараноўскага А.І. да прымусовага лячэння ад хранічнага алкагалізму.

16 ліпеня 2014 года судом Пастаўскага раёна вынесена пакаранне двум жыхарам Пастаўскага раёна, Танану Чаславу Часлававічу і Кірплюку Антону Антонавічу за здабычу двух асобін карасёў срэбных забароненымі прыладамі рыбалоўства – сеткамі – у выглядзе штрафу ў памеры 1.500.000 рублёў кожнага. Дарагія атрымаліся карасі.

Нягледзячы на строгія меры адказнасці за браканьерства, на жаль, колькасць парушальнікаў штогод памяншаецца нязначна, але прагрэс у лепшы бок ёсць. Аналіз наяўнай у міжраённай інспекцыі інфармацыі дае падставу меркаваць, што ў бліжэйшы час будуць затрыманыя яшчэ не адзін дзясятак парушальнікаў, якім закон яшчэ пакуль не пісаны. Але спадзяёмся, што пасля затрымання і прыцягнення да адказнасці, яны вывучаць закон вельмі добра.

***

**Аб усіх фактах браканьерства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

## МНС інфармуе

**на 02.09.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 743;
Гібель людзей – 81, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 528.87 млн. руб.

